СПЭЦВЫПУСК

# Магістрат

«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ

№23(31), красавік, 2005г.

# НА ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ!!!

Чарнобыльская катастрофа закранула КОЖНАГА жыхара Беларусі:
– чвэрць краіны, дзе жыве **1 840 000** чалавек, забруджана радыёнуклідамі;
– **140 000** чалавек жыве на моцна заражаных тэрыторыях (ад **15** да **40** кюры), хаця ў суседніх краінах з такіх зонаў даўно ўсіх адсялілі;
– **усе мы** спажываем харчовыя прадукты, якія вырошчваюць на заражаных землях.

**У ВЫНІКУ:**

– ад радыяцыі ў Беларусі памерла 200 000 чалавек;
– першасная інваліднасьць з 1986 году павялічылася на 50 %;
– колькасьць генэтычных адхіленьняў у немаўлятаў павялічылася ў 8 разоў;
– толькі 13% выпускнікоў школаў лічацца здаровымі.

АЛЕ цяперашняе кіраўніцтва краіны не кажа праўды пра Чарнобыль. Улады спынілі адсяленьне з забруджаных раёнаў і аб'явілі іх чыстымі. Яны прымусова размяркоўваюць выпускнікоў універсытэтаў у чарнобыльскія раёны.

**ПАТРАБУЕМ:**

– сказаць праўду пра наступствы катастрофы;
– адсяліць людзей з моцна заражаных тэрыторыяў (15 і больш кюры);
– забяспечыць інвалідаў Чарнобыля лекамі і лячэньнем;
– спыніць вытворчасьць прадуктаў на забруджаных тэрыторыях;
– адмяніць абмежаваньні на гуманітарную дапамогу чарнобыльцам з-за мяжы і на выезд дзяцей на аздараўленьне;
– спыніць прымусовае размеркаваньне студэнтаў.

26 красавіка 2005 года, у аўторак, збор у 16.30 на плошчы Перамогі (каля кнігарні «Крыніца»). Далучайцеся да нас. З 17.00 да 18.00 прыходзьце на плошчу Свабоды, каб выказаць сваю салідарнасць.

**26**

**КРАСАВІКА**



**ПАМЯЦЬ ДЗЕЛЯ БУДУЧЫНІ!**

**МЫ ХОЧАМ, КАБ НАШЫЯ ДЗЕЦІ БЫЛІ ЗДАРОВЫМІ.
МЫ ХОЧАМ ЖЫЦЬ У СВАБОДНАЙ КРАІНЕ, УЛАДЫ ЯКОЙ НЯ ЛГУЦЬ СВАІМ ГРАМАДЗЯНАМ.**

# СУСТРЭЧЫ Ў ВАРШАВЕ – ІСТЭРЫКА ЎЛАДАЎ У МЕНСКУ

18-20 красавіка. адбыўся візыт дэлегацыі аб'яднаных дэмакратычных сілаў Беларусі ў польскую сталіцу. Вінцук Вячорка (ПБНФ), Сяргей Калякін (ПКБ), Анатоль Лябедзька (АГП), Станіслаў Шушкевіч (БСДГ), Аляксандар Бухвостаў (ПП), Вольга Кузьміч (ЗБС) і Ўладзімір Кобец («Зубр») мелі спатканьні з высокімі прадстаўнікамі заканадаўчай і выканаўчай улады суседняй краіны. Іх прымалі маршалак Сэйму Ўладзімеж Цімашэвіч, віцэ-сьпікер Эўрапарлямэнту Януш Анышкевіч і інш. Беларусы сустрэліся з прадстаўнікамі няўрадавых арганізацыяў і правялі прэсавую канфэрэнцыю.

Старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка зазначыў: «Нашаю галоўнаю мэтаю было абмеркаваньне праблемы самаізаляцыі Беларусі, куды заганяе нашую краіну А.Лукашэнка, і супольныя пошукі такіх варыянтаў, якія б не дазвалялі ўладам Беларусі штучна ізаляваць беларускі народ ад сьвету. Я ўсьцешаны, што мы знаходзім агульную мову з палякамі як з добрымі суседзямі. Думаю, Польшча як краіна ЭўраЗьвязу можа адыграць істотную ролю ў фармуляваньні палітыкі ЭЗ, якая адрозьнівае антыдэмакратычныя ўлады нашай краіны ад беларускага народу й спрыяе інтарэсам і дэмакратычным пэрспэктывам апошняга. Мы таксама паразумеліся на тым, што мяншыні — польская ў Беларусі й беларуская ў Польшчы – мусяць мець ясныя гарантыі захаваньня сваёй ідэнтычнасьці й сваіх правоў і быць мастом паразуменьня паміж нашымі краінамі. А што да істэрыкі ў Менску, нейкіх абвінавачаньняў на адрас польскай амбасады з боку ўладаў – гэта чарговая спроба збанкрутаванага «правадыра» шукаць мітычных замежных ворагаў, замест таго каб зразумець, што дэмакратызацыя й эўрапейскі выбар Беларусі – гэта воля самога беларускага народу. І яна немінучая».

# СКАРГУ НЕ ЗАДАВОЛІЛІ

14 красавіка было вынесенае канчатковае рашэньне Вярхоўнага Суда па скарзе Партыі БНФ на пісьмовае папярэджаньне Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь з патрабаваньнем зьліквідаваць арганізацыйныя структуры партыі.

Нагадаем, што Міністэрства юстыцыі Беларусі абвінавачвала Партыю БНФ у разьмяшчэньні больш як 80 арганізацыйных структураў партыі ў жылых кватэрах, што, на думку Мін'юсту, ёсьць парушэньне арт. 8 Жыльлёвага кодэксу Рэспублікі Беларусь. Згодна з гэтым артыкулам, жыльлёвыя памяшканьні павінны скарыстоўвацца толькі для пражываньня грамадзянаў.

Як паведаміў кіраўнік арганізацыйна-праўнай камісіі партыі сп. Уладзімер Лабковіч, які прадстаўляў у судзе інтарэсы Партыі БНФ, Вярхоўны Суд не задаволіў скаргу партыі й вынес у адрас Мін'юсту «прыватнае вызначэньне аб парушэньні дзеючага заканадаўства пры рэгістрацыі арганізацыйных структураў Партыі БНФ».

Такім чынам, каля 80 арганізацыйных структураў Партыі БНФ па ўсёй краіне мусяць быць зачыненыя, юрыстам удалося адстаяць рэгістрацыю толькі шэрагу структураў у Берасьцейскай і Гомельскай абласьцёх.

Трэба адзначыць, што ўчора Мін'юст замяніў свайго прадстаўніка ў судзе на сп. Зінкевіча ў сувязі з тым, што мінулы прадстаўнік сп-ня Калячка «захварэла на сэрца».

Паводле сп.Лабковіча, «гэтае рашэньне безумоўна з'яўляецца працягам палітычнага працэсу па зьнішчэньню арганізацыйных структураў партыяў. Такія ж самыя рашэньні былі вынесеныя ў дачыненьні да нашых калегаў з ПКБ і АГП. Мы й зараз лічым, што патрабаваньне размяшчаць арганізацыйныя структуры палітычных партыяў у нежылых памяшканьнях беспадстаўнае й неабгрунтаванае».

Сп.Лабковіч таксама паведаміў, што сёньня распачаўся аналягічны судовы працэс па грамадзянскім аб'яднаньні «БНФ Адраджэньне», «вынік якога, відавочна, будзе цалкам супадаць з папярэднімі рашэньнямі Вярхоўнага Суда».

# РОЎНЫЯ ШАНСЫ

Дэмакратычная супольнасьць Беларусі правяла чатыры мясцовыя канфэрэнцыі па вылучэньні прэтэндэнтаў на званьне адзінага дэмакратычнага кандыдата ў прэзыдэнты. Падчас іх былі вылучаныя сп-ры А.Мілінкевіч, С.Калякін, А.Лябедзька й С.Шушкевіч. Сваё меркаваньне наконт ходу гэтага працэсу выказаў сп.**Аляксандр Мілінкевіч** – беспартыйны кандыдат у прэтэндэнты, падтрыманы Партыяй БНФ і партыяй «Зялёныя».




"На маю думку, тое, што адбылося да сёньняшняга дня на абласных канфэрэнцыях паказвае, што канкурэнты, якія ўдзельнічаюць у спаборніцтве за званьне прэтэндэнта ў адзіныя кандыдаты, маюць прыкладна роўныя шансы. Нікому ня ўдалося выйграць хаця б на двух канфэрэнцыях, на кожнай зь іх былі розныя пераможцы, і галоўнае тут тое, што ўсе чатыры прэтэндэнты набіралі шмат галасоў. Відавочна, што справа адзінага кандыдата будзе вырашаная на агульнанацыянальным кангрэсе дэмакратычных сілаў, абласныя ж канфэрэнцыі – гэта, хутчэй, сустрэчы для азнаямленьня з прэтэндэнтамі".

Паводле **сп.Мілінкевіча,** яго больш турбуе не галасаваньне за пасаду кандыдата, а вызначэньне тэрміну кангрэсу. "Я абсалютна упэўнены, што кангрэс трэба праводзіць як мага хутчэй, бо зусім не выключана, што ужо ў гэтым годзе будуць аб'яўленыя прэзыдэнцкія выбары і на раскрутку абранага адзінага кандыдата спатрэбіцца шмат часу".

# ЗБІРАЕМ КНІЖКІ

У структурах палітычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў Беларусі распачаўся збор кніжак і сшыткаў, якія будуць перададзеныя дзіцячым установам Магілеўскай і Гомельскай абласьцёў. Акцыю правядуць кіраўнікі палітычных партыяў і маладзёвых арганізацыяў напярэдадні 26 красавіка.

Як паведаміў намесьнік старшыні Партыі БНФ сп. Аляксей Янукевіч, гэтае рашэньне было прынята 1 красавіка арганізацыйным камітэтам па падрыхтоўке мерапрыемстваў, прымеркаваных да чарговай гадавіны Чарнобыльскай катастрофы.

Аргкамітэт таксама прыняў заклік да ўсіх грамадзянаў краіны прыняць удзел у дабрачыннай акцыі па збору гэтых неабходных для дзяцей рэчаў. Прыносіць кніжкі й сшыткі любога кшталту можна ў штаб-кватэру Партыі БНФ (вуліца Варвашэні, 8), штаб-кватэру АГПі (вуліца Р.Харужай, 22) і ў рэспубліканскі Савет прафсаюзаў РЭП (вуліца Кульман, 4).

# НОВАЯ СІЛА

«Палітызацыя прадпрымальніцкага руху — гэта тое, чаго вельмі баяўся сп. Лукашэнка, а значыць гэта вельмі правільны і чаканы працэс». Так пракаментаваў лідэр Партыі БНФ сп. Вінцук Вячорка намер Рэспубліканскага грамадскага аб'яднаньня «Перспектыва» стварыць да 1 ліпеня 2005 года палітычную партыю. Аднагалоснае рашэньне аб гэтым было прынята 22 сакавіка на савеце РГА «Перспектыва». Задача будучай партыі — абарона грамадзянскіх і эканамічных правоў прадпрымальнікаў.

**Магістрат**

**Заснавальнік**: Віцебская рада ПБНФ
**Рэдактар:**К.Смолікаў
**Дызайн:**С. Серабро
**Вёрстка:** С. Залацец
**Дапамога:** ВАА ГА «Фонд імя Л. Сапегі»
**Наклад:**299 паасобнікаў

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня. Можа выкарыстоўвацца ў рэклямных, інфаромацыйных і агітацыйных мэтах.

Тэлефоны для кантактаў: 8-029-7126561, 7155389, 36-89-46, 22-49-25, 23-59-63, 21-01-83, 37-27-39.
**E-mail: vicebsk_region@pbnf.org www.pbnf.org**